# ВЕСТКІ З КРАЮ

### З апошніх падзеяў у нас.

(Пружаншчына)

Неяк нядаўна зьявіўся ў нашую вёску „Яго-масьць“ ў капялюшы і загадаў солтысу склікаць сход. Солтыс сход склікаў.

Гэты „Яго-масьць“ аказаўся польскім вучыцялем з вёскі Н. (ў 7 вярстох ад Са-цы).

На сходзе ён абвясьціў, што прыехаў у в. Са-цу з мэтай зарганізаваньня тут „kółka przysposobienia wojskowego“. — А для чаго яно? — пытаюцца зьдзіўляныя сяляне.

— А вось, слухайце! Па першае: — „Polska“ мае вельмі шмат ворагаў. Немцы хочуць „выпраставаць“ заходнюю граніцу „Polski“, ліцьвіны хочуць адабраць Віленшчыну, бальшавікі... так сама... Па-другое: даўней жаўнёру трэба было вельмі мала вучыцца, а цяпер ён павінен ведаць як карыстацца машыновымі карабінамі, „gazami trującymi“ і г.д. — і шмат чаго разводзіў яшчэ — „пан у капялюшы“.

Пад канчатак так заахвоціўся сялянскім маўчаньнем, што запрапанаваў запісвацца ў „kółko“. Але-ж прысутныя і тут прамаўчалі... Хто і меў што сказаць — устрымаўся, баючыся зарабіць „дармовы хлеб і кватэру“ (ён і так прыеўся Беларусам.)

Даволі таго калі скажу, што „Яго-масьць“ прыехаўшы ў вёску з задзёршым капялюшам, паехаў назад націснуўшы яго на вочы.

Полымя.

## Друкарская папраўка.

У № 40 „Сял. Нівы“ у артыкуле „Вокам па сьвеце XVII“, памылкова надрукавана:

„Яго асудзілі на кару сьмерці за тое што ён быў павадыром фламандзкай партыі, якая дамагалася аддзяленьня **Францыі** ад Бэльгіі“...

Гэты сказ павінен быць:

„Яго асудзілі на кару сьмерці за тое, што ён быў павадыром фламандзкай партыі, якая дамагалася аддзяленьня **Фляндрыі** ад Бэльгіі“.

У сувязі з гэтым, гэтак званым, друкарскім „кур'ёзам“, хочацца ўспамянуць ужо запраўды кур'ёз газэты „Новае Время“ з 16 траўня 1883 г.

Даючы справаздачу аб каранаваньні расейскага цара Аляксандра III; у вышэй названай газэце было напісана гэтак:

„Пасьля прагалашэньня мітрапалітам малітвы гасудар імператар узлажыў на гасударыню імператрыцу **карову**“.

На другі дзень зьявілася папраўка, у якой гаварылася, што, у справаздачы аб каранацыі здарылася прыкрая памылка, але-ж хіба кожны зразумее, што трэба чытаць, — гасудар узлажыў на імператрыцу не „карову“, а „варону“. Пасьля гэтага папраўкі ужо ня было. Так і няўдалося „Новаму Времені“ напісаць правідлова слова — корону.

## З украінскага жыцьця.

№ 17 укр. газ. „Діло“ падало вестку аб тым, што украінскі пасольскі клюб падаў у сойм прапазыцыю, якой дамагаецца каб польскія дзейнікі ў адносінах да украінцаў карысталіся тэрмінам — „украінец,“ „украінскі“, замест — „русін,“ „рускі.“

Гэтую справу меў рэфэраваць у камісіі пас. Хруцкі, але-ж камісія разгляд справы адлажыла, бо „бэбэхаўцы“ не маюць яшчэ яснага пагляду.(„укр. Грамада“ № 4).

—Нядаўна адбыліся два украінскія зьезды: украінскага народна-дэмакр. аб'яднаньня і украінскай сацыял-дэмакратычнай партыі.

—Укр. газ. „Свабода“ № 5 зьмясьціла вестку аб тым, што ў выніку сьледзтва сутычкі паліцыі з сялянамі ў в. Баляцічы, арыштавана 28 селян. Між імі ёсьць 3 жанчыны, з якіх адна дзяўчына 16 гадоў.

## Сьв. памяці грамадзкага працаўніка і дзеяча.

15 кастрычніка г. году памёр у Астрыне сьв. п. Павал Каранкевіч. Нябошчык паходзіў з Астрыны. У 1881 годзе скончыў маладэчанскую вучыцельскую сэмінарыю і быў вучыцялем і вучыў беларускіх дзетак не шкадуючы сваіх сіл і здароўя, зьбіраў іх і пераліваў ў іх душы ўсю сваю веду, ведаючы, што ён ня панскага роду, а косьць ад косьці гэтых самых дзяцей. Але сталася так, што ён быў змушаны шукаць другой працы: быў валасным пісарам, а потым працаваў на чугунцы — у канцэлярыі начальніка палескіх дарог. Апрача гэтае працы на кавалак хлеба, нябошчык вёў працу грамадзкую. Сам пісаў і выдаваў брашуры аб Беларусі з картай Беларусі: за гэта меў вялікую няпрыемнасьць ад расейскай улады. Ён быў добра знаёмы з вядомым знаўцам Беларусі, прафэсарам Карскім.

Усё гэта было да вялікай вайны.

Пасьля вайны П. Каранкевіч жыў у м. Астрыне. Нябошчык пісаў і выдаваў брашуры духоўнага зьместу, якімі цікавіўся архіяпіскап Элеўфэры, з якім нябошчык так сама быў добра знаёмы.

Як чалавек шчыры, ён вельмі ня любіў фарысейства духавенства і крытыкаваў іх у сваіх пісьменных працах. Арх. Элеўфэры часта прыслухоўваўся і кіраваўся ягонымі парадамі. За гэта духавенства яго ня любіла, але каго за праўду любяць?

Знаўся нябошчык і з паэтам Якубам Коласам.

Між іншым гожа адзначыць, што П. Каранкевіч падаў думку напісаць п'есу „Ня розумам сьцяміў, а сэрцам.“ У 1919-22 гадох ён, калі яшчэ яму пазваляла здароўе, гуртаваў астрынскую моладзь, заахвочваў яе да працы, памагаў ладзіць беларускія прадстаўленьні, на якіх ставіліся як вышэй названы твор таксама й іншыя.

У часе выбараў у сойм ён дапамог тутэйшаму жыхарству разабрацца ў тэй масе сьпіскаў, якімі закідалі нас.

Нябошчык быў патрыётам Бацькаўшчыны-Беларусі.

Ня малады век і слабае здароўе змусілі яго нарэшце злажыць галаву і нябошчык, душу сваю палажыўшы за другаў сваіх, быў пахаваны ў Астрыне.

Сьпі нам дарагі пакравіцяль, няхай лёгкай будзе табе родная Астрынская зямелька!

Вечная памяць табе ад удзячных вучняў!

Осіп Дзеяновіч.

## Маленькая показка.

### Жаночы чар.

Расейскі пісьменьнік Максім Горкі ў адным са сваіх расказаў неяк пісаў:

„Жанчына, як хвароба — без яе не пражывеш“.

Калі я прачытаў гэта, дык тагды пасьмеяўся. От думаю—прыгожае славечка! Але-ж „беглі гады чарадою“ і я сёньня ўжо маю іншыя пагляды на адносіны да жанчыны. У гэтым я ўжо згаджаюся з Максімам!...

Была вечарына — разумеецца беларуская... Пяялася многа ўсякіх песьняў. Усе яны захоплівалі і выклікалі салодкія адчуваньні. Калі-ж запяялі—„Выйдзі дзяўчыненка, выйдзі галубанька ў садзік ка' мне пагуляць“... дык гэтая песьня ўзбудзіла ў мяне пачуцьцё любасьці, якое вылілася ў каханьне...

У такое каханьне, якое поўнаўладна дыктавала мне зрабіць тое, што пяецца ў песьні... гэта знача—паклікаць дзяўчыну — галубаньку. Але-ж якую? —Тут успомніў я, што неяк вясною—таксама на вечарыне — падарыла мне дзяўчына зялёную, сьвежую кветачку з прыгожымі, чырвонымі красачкамі: падарыла яна мне яе толькі за тое, што мы знаёмыя... На гэтым тое знаёмства тагды і закончылася... Праўда, кветку я захаваў: палажыў яе ў кніжку (якую найчасьцей чытаю), і часта здаваляе яе відам маё эстэтычнае пачуцьцё“.

—о—

Прыходжу гэта я дамоў, бяру кніжку, знаходжу кветку, гляджу на яе, а пасьля панюхаў і пацалаваў. Спытаецеся—навошта?

— Бо дазнаў я, што „жанчына, як хвароба, без якой не пражывешь“... А кветка, то-ж успамінак аб ёй, які ўзбудзіў ува мне мары—салодкія, мілыя, чароўныя...

Дык і нядзіва, што выклікаў і я маю галубаньку, хоць нягэтак як у песьні пяецца...

Я напісаў ёй пісьмо, вызначыў месца, дзень і гадзіну спатыканьня і прасіў, каб яна прышла.

Прыходжу гэта туды і чакаю... чакаю з напружанасьцю... І што-ж вы думаеце?!...

—Так і не дачакаўся... ня прышла!...

Стала мне—пасьля гэтага—кісла, няпрыемна, сумна, крыўда... Крыўдна на сябе, што я зрабіў неабдуманны крок; крыўдна на прыроду, што яна стварыла гэтак. Проці-ж дзяўчыны ніякае крыўды не паўстала: яна для мяне асталася галубанькай... Вось які жаночы чар!... Але-ж гэта ня ўсё!

Калі я „зрабіў“ крок надарэмна і калі не здабыў нічога, дык і нічога ня страціў. А дзеля гэтага можа здавацца, што ніякае сілы ў жаночым чары няма. Каб даказаць, што ў жаночым чары ёсьць сіла, і то—магутная сіла—я раскажу яшчэ адно здарэньне.

—о—

Гэтымі днямі быў зрокся каралеўскай пасады Аманулях—кароль Афганістану. І як вы думаеце: чаму? — Дый толькі таму, што не захацеў пазбавіцца Сурайі—сваей жонкі.

У папярэднім нумары „Сялянскай Нівы“ ужо пісалася, што проці караля Аманулляха паўстаў народ за тое, што ён хацеў зьмяніць лад жыцьця і звычаі Афганістану, што пярэчыла рэлігійным догматам афганцаў.

Памоцніцаю каралю ў яго рэформах была яго жонка. Калі кароль абвясьціў, каб жанчыны скінулі пакрывалы з твару, дык першаю зрабіла гэта жонка караля. Калі кароль даў жанчынам грамадзкія правы, дык першаю выкарыстала гэтае права жонка караля. Яна стала бываць на ўсякіх вечарынах, балёх і наагул ўзяла удзел ува ўсіх сьвецкіх справах. А гэта не адпавядала звычаям афганцаў. Вось чаму, калі ў выніку паўстаньня, кароль быў змушаны скасаваць рэформы і вярнуць афганцам стары лад, дык паўстанцы зажадалі ад Аманулляха, каб ён... узяў развод з жонкаю.

Гэтага было ўжо зашмат! Кароль зрокся каралеўскага прастолу, але-ж ня жонкі...

—о—

Вось які моцны жаночы чар! Ён мацнейшы за ўладу і за ўсё на сьвеце!

Дык і ня дзіва, што я, ахоплены гэтым чарам, папустому прастаяў гадзіну ў Мейскім кіно!

Скарга.





# Гаспадарскі аддзел

*З кніг аграномa Люста*

### 47. Атрыманьне насеньня лубіну.

На насеньне лубін зьбіраюць тады, калі дасьпее частка яго струкоў. Дасьпяваньне зярнят у яго йдзе вельмі нядружна, таму ніколі не чакаюць, калі яны дасьпеюць усе.

Зьбіраюць лубін на насеньне двумя спосабамі: ці яго жнуць і вяжуць у невялічкія снапы, якія расстаўляюць добраю пагодаю па полі для аканчальнай высушкі, ці проста абрываюць струкі, пакідаючы сьцёблы на карэньнях.

Снапы лубіну складваюць у гумне ці пад паветкаю на вольным паветры. Добра снапы лубіну, кладучы, перапластоўваць саломаю, каб унікнуць псуцьця зярнят. Малоцяць лубін у канцы зімы ці раньняю вясною, незадоўга да пасеву, бо абмалочаныя і правеяныя зярняты яго лёгка псуюцца. Таму, да пасеву, іх захоўваюць рассыпанымі тонкім пластом і што дня перамешваюць. Калі зьбіраюць лубін на насеньне абрываньнем струкоў, дык праветрыўшы іх на паветры, кладуць тонкім пластам у будынку, ці на падстрэшшу, дзе яны ляжаць да канца зімы. Некаторыя гаспадары малоцяць добра высушаны лубін яшчэ у восень, але ня веюць яго, а ссыпаюць разам з лушпою. дзякуючы чаму ён не саграваецца.

Зялёны лубін на корм скаціне не надаецца, бо ён вельмі горкі. Салома яго такжа горкая і надаецца толькі на падсьцілку скаціне.

Зярняты лубіну маюць шмат бялковых матэрыяў таму яны зьяўляюцца вельмі добрым кормам для коней і скаціны. Але скармліваць іх можна пасьля некаторага прыгатаваньня, бо яны вельмі горкія.

Гатуюць зярняты лубіну на корм скаціне наступным спосабам: спачатку іх параць (з вадою) у добра напаленай печы ў працягу 3-4 гадзін, потым мочаць у кадушцы з халоднаю вадою, прыблізна каля двух дзён; ваду у якой мочыцца лубін, зьмяняюць разоў 3-4. Часамі мочаць прапараны лубін і ў бягучай вадзе ў асобых скрынках, бакі якіх маюць шчыліны, так што праз іх праходзіць бягучая вада. У бягучай вадзе лубін трымаюць адзін дзень.

## Разьдзел другі.

## Аб севазваротах.

### 1. Чаму трэба сеяць траву на палёх.

Усе селяне— Беларусы, за малымі выняткамі, вядуць трохпольную гаспадарку; скаціна трымаецца амаль на аднэй саломе, бо сенажацяў мала і сена з іх чуць хапае для пракармленьня коней і маладняку.

Пры такім гаспадараньні ў селяніна ўсё худое: і скаціна, і грунт, і яго кішэнь, і ён сам.

Каб быць самому сытым і мець няпустую кішаню, трэба, каб і скаціна ў гаспадарцы была сытая і каб ральля добра ўгнойвалася, а дзеля гэтага трэба, раней заўсё, так паставіць гаспадарку, каб у ёй заўсёды мелася даволі корму для скаціны. Калі ёсьць корм, дык будзе і скаціна сытая, будзе чым угнойваць ральлю і будуць атрымлівацца добрыя ўраджаі.

Што ў гаспадарцы мала сенажацяў, бяды ў гэтым ніякай няма. Корм можна здабываць з палёў і нават у большай колькасьці і лепшай якасьці, чым з сенажацяў. Дзеля гэтага трэба сеяць на палёх травы. Але сеяць траву на палёх трэба ў вядомым парадку, так, каб пасеў яе правідлова чарадаваўся з пасевамі збожжа.

Правідловы палявы травасеў дае гаспадарцы аграмадную карысьць. Карысьць гэтая, узапраўды, аграмадная ня толькі таму, што атрымліваецца шмат корму ў гаспадарцы, але і таму, што, пры гэтым праходзіць чарадаваньне на палёх пасеваў збожжа з пасевамі траваў.

Чаму такое чарадаваньне пасеваў дае вялікую карысьць, зараз будзе растлумачана.

Дзеля таго, каб мець магчымасьць весьці правідловае чарадаваньне пасеваў збожжа і траваў ральлі, трэба яе разьдзяліць не на 3, а на большую колькасьць палёў, на 4, 6, 7, 8 ці 9.

Парадак чарадаваньня пасеваў на палёх называецца севазваротам. Севазвароты атрымліваюць назовы на колькасьці палёў: чатырохпольныя, шасьціпольныя і г. далей.

Севазвароты, у каторых колькасьць палёў больш трох, наагул называюцца шматпольнымі.

(далей будзе)

Адказны Рэдактар: Ул. Гмыр. Выдавец: пас. Ф. Ярэміч. Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.